Год IV. Чэрвень Ліпень 1935 г. № 6-7(42-43).




# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Вільня. Чэрвень-Ліпень 1935 г. № 6-7 (42-43).

# Другі Дзень Сёмухі, Духаў Дзень.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*

### *ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ РАЗЬДЗ. 18, 10—20; ЗАЧАЛА 75.*

10. Сказаў Госпад: Глядзеце, каб вы не пагарджалі ані адным з гэтых малых: бо кажу вам, што іхныя ангелы ў небе заўсёды бачаць воблік майго Айца, Каторы ёсьць у небе.

11. Бо Сын чалавечы прыйшоў збавіць тое, што загінула.

12. Як вам здаецца? Калі-б хто меў сто авечак і заблудзіла-б адна з іх: ці-ж не пакіне ён дзевяцьдзесят дзевяць у горах і ці-ж не пайдзе шукаць тае, якая заблудзіла.

13. А калі яму ўдасца яе знайсьці, — запраўды кажу вам: ён больш уцешыцца з яе, як з дзевяцьдзесят дзевяцёх, што ня былі заблудзіўшы.

14. Так няма (на гэта) волі Айца вашага, Каторы ёсьць у небе, каб згінуў хоць адзін з гэтых малых.

15. Калі-ж брат твой саграшыць супроць цябе, ідзі і напамінай яго між сабою і ім самым: калі цябе паслухае, — ты здабыў свайго брата.

16. Калі-ж не паслухае цябе, вазьмі з сабою яшчэ аднаго або двух, каб вуснамі двух або трох сьведкаў уцьвярдзілася кожнае слова.

17. А калі і іх не паслухае, скажы царкве; а ка-

лі-б нават не паслухаў і царквы, дык няхай будзе як паганец і мытнік.

18. Запраўды кажу вам: Штоколечы зьвяжаце на зямлі, будзе зьвязана і на небе; а штоколечы разьвяжаце на зямлі, будзе разьвязана і на небе.

19. Ізноў-жа запраўды кажу вам: Калі-б двое з вас, будучы ў згодзе на зямлі, прасілі аб штоколечы, дасьць ім мой Айцец, Каторы ёсьць у небе.

20. Бо дзе будуць двое або трое сабраўшыся ў маё Імя, там і Я пасярод іх буду.

---

Сяньняшні дзень, Другі Дзень вялікага сьвята Сёмухі, пасьвячаны ў чэсьць Трэцяй Асобы Сьвятой Тройцы, Сьвятога Духа.

Мы ведаем, што Госпад Бог ёсьць адзін у Трох Асобах. Усе Тры Асобы Боскія роўныя, паміж імі няма ніякай розьніцы адносна да магутнасьці, Боскае годнасьці.

Розьняцца яны паміж сабою толькі паходжаньнем: Бог Айцец ад нікога не паходзіць, Бог Сын радзіўся ад Айца, а Бог Дух Сьвяты паходзіць ад Айца і Сына.

Сярод розьніц, якія мы бачым паміж так званым праваслаўем і каталіцтвам, ёсьць розьніца навукі адносна да паходжаньня Сьвятога Духа.

Праваслаўная Царква вучыць, што Трэцяя Асоба Боская — Дух Сьвяты паходзіць толькі ад Айца, а Каталіцкая або Сусьветная Царква вучыць, што Дух Сьвяты паходзіць ад Айца і Сына.

У сяньняшняй навуцы затрымаемся над паходжаньнем Сьвятога Духа; прывяду я вам, мае дарагія браты і сёстры, доказы на пацьверджаньне праўды, што Сьвяты Дух паходзіць ня толькі ад Айца, але і ад Сына.

Сьв. Пісаньне аб Духу Сьвятым гэтак кажа: **„Калі-ж прыйдзе Ён, Дух Праўды, то навучыць вас усякае праўды, бо не ад Сябе гаварыць будзе, але гаварыціме вам, што мае прыйсьці. Той уславіць Мяне, бо з Майго вазьме і вам абвесьціць. Усё, што мае Айцец, ёсьць Маё; дык Я і сказаў, што ад Майго вазьме і абвесьціць вам“** (Іо 16, 13—15).

Ведаем, што Трэцяя Асоба, Сьвяты Дух, ува ўсіх дасканальнасьцях ёсьць роўны Богу Айцу і Богу Сыну, немагчыма да дасканальнасьці штосьці дадаць. Адносна людзей усе Тры Асобы Боскія, як Адзін Бог, праяўляюць сваю магутнасьць, дабрату ды ўсякую дзейнасьць. Аднак Ісус Хрыстос кажа: **„з майго вазьме“**. Што-ж знача „ўзяць“ паміж Боскімі Асобамі? **Толькі паходжаньне паміж Імі —**

нічога іншага. Пацьвярджаюць гэта далей гэткія словы прыведзенага вышэй сказу: **„Усё, што мае Айцец, ёсьць Маё“**. Бог Айцец мае паходжаньне Духа Сьвятога, гэта самае мусіць мець і Сын Божы, бо ўсё, што мае Айцец, мае тое самае і Сын Божы.

У іншым месцы Ісус Хрыстос гэтак кажа сваім вучням: **„Але Я праўду кажу вам: лепей для вас, каб я пайшоў; бо, калі я не пайду, Пацяшыцель ня прыйдзе да вас, калі-ж пайду, пашлю Яго да вас“** (Іо. 16, 7). Аб выпаўненьні гэтых слоў чытаем у іншым месцы: **„І вось Я пасылаю абяцанае Айцом Маім на вас; вы-ж аставайцеся ў месьце Ерусаліме, дакуль не адзенецеся сілаю звыш“** (Лук. 24, 49).

Няма ніякага сумліву, што тут гаворыцца аб сасланьні Сьвятога Духа. Сын Божы пасылае Сьв. Духа, — гэта ня можна вытлумачыць бяз сувязі з паходжаньнем. Пасылае толькі Тую Асобу, якая ад Пасылаючага паходзіць.

У некаторых месцах Сьвятога Пісаньня гаворыцца, што Дух Сьвяты паходзіць ад Айца, але гэта ня выключае паходжаньня ад Сына, бо нідзе ня сказана, што **толькі** ад Айца паходзіць. Напрыклад, калі ў дакумэнце якім гаворыцца, што Іван сын Сьцяпана, — гэта ня значыць, што ён ня меў маткі, хаця там — у дакумэнце — няма аб ёй ні слова. Нявыразныя месцы тлумачацца праз больш выразныя, у якіх гаворыцца аб паходжаньні ад абодвух.

Сьвятыя айцы царквы добра разумелі Сьвятое Пісаньне, яны выразна вучаць аб паходжаньні Сьв. Духа ад Айца і Сына. Вазьмем для прыкладу Сьв. Эпіфана, які, гаворачы аб Сьв. Духу, кажа, „што ад абодвух паходзіць“ (М. т. 53 бач. 138).

Сьвяты Аўгустын выясьняе спосаб паходжаньня,—гэтак кажа: — Бог Айцец любіць свайго Сына, а Сын Айца, як вынік гэтае **супольнае** любові ёсьць Сьвяты Дух, Трэйцяя Асоба.

Усходнія айцы царквы вельмі баяліся, каб хто нядобра зразумеў гэтае паходжаньне ад Айца і Сына, быццам ад двух пачаткаў; разьбівалася-б такім чынам Адзінства Божае і мог-бы хто тлумачыць у сэнсе гэрэзіі Македонія, што Сьв. Дух ёсьць творам Сына Божага, — дзеля таго агульна мелі звычай пісаць, што Сьв. Дух паходзіць ад Айца праз Сына. Гэта ня робіць розьніцы, выходзіць тое самае, ці ад Айца і Сына, ці ад Айца праз Сына, бо паходжаньне ёсьць ад аднаго пачатку, Айцец і Сын становяць адно жарало, з якога паходзіць Сьвяты Дух.

Некаторыя праваслаўныя багасловы ня столькі пярэчаць самой навуцы Сусьветнае Хрыстовае Царквы аб паходжаньні Трэцяе Асобы Сьв. Тройцы ад Айца і Сына, сколькі проці ўвядзеньня „Сына“ ў сымболь веры. Трэці Су-

сьветны Сабор, — кажуць, — выразна забараніў уводжваньне чагосьці новага да сымболю веры.

На гэта можна адказаць, што пастанова III Сусьветнага Сабору датычыла паасобных асобаў, япіскапаў, а не наступных сабораў. Забаранялася, каб кожны япіскап ня ўводзіў на сваю руку, чаго-небудзь новага ў сымболі, вызнаваньні веры, але ня мог гэткае пастановы зрабіць сабор адносна наступных сабораў: Сусьветны Сабор заўсёды меў ды мае права, дзеля выясьненьня, дадаваць якуюсь праўду да сымболю веры. Ні адзін сабор ня ёсьць вышэйшым за іншыя саборы.

Няма абавязку ў нас падчас Сьв. Літургії, паводле ўсходняга абраду, дадаваць у сымболі веры „Сына", але **маем абавязак верыць, што Сьв. Дух ад абодвух паходзіць.**

У сяньняшняе Сьвята, у Дзень Сьвятога Духа, будзем прасіць, каб Сьвяты Дух прасьвяціў розум усіх, каб кожны меў праўдзівую веру, веру згодную з Сьвятым Пісаньнем ды навукаю Сьв. Айцоў Царквы. Кожны, хто меціме праўдзівую веру, будзе належна і паважаць Госпада Бога.

Дай Божа, каб усе хрысьціяне, з шчырым сэрцам маглі засьпяваць словы Сьв. Літургії: „**Видѣхомъ свѣтъ истинный, пріяхомъ Духа Небеснаго, обрѣтохомъ вѣру истинную, нераздѣльнѣй Тройцѣ поклоняемся: Та бо насъ спасла есть**". Амін.

*а. Антоні.*

---

# Сьмерць Маршалка Я. Пілсудскага.

12 траўня с. г. а 8 гадзіне 45 мінут увечары памёр першы маршалак Польскае дзяржавы Язэп Пілсудскі.

Сумная гэта вестка ўзварушыла да глыбіні сэрцы грамадзянства, бо запраўды сьмерць забрала чалавека, якому роўнага яшчэ Польшча ня выдала ў працягу свайго гістарычнага існаваньня.

Польская дзяржава страціла таго, каторы яе ўваскрасіў, вырваў з путаў ворагаў і быў яе душой і фактычным галавой да апошняга дня.

Цэлае Яго жыцьцё было барацьбой — змаганьнем і працаю з найбольшаю самаахвярнасьцяю за вызваленьне і ўзбуджэньне сіл да жыцьця даражэйшай яму за ўсё бацькаўшчыны.

Вось галоўныя звароты Яго ахвярнага жыцьця.

Радзіўся на Віленшчыне ў двары Зулаве, Сьвянцянскага павету; у 1867 г. Скончыўшы гімназію ў Вільні ў 1885 г. паступае ў Харкаўскі унівэрсытэт, але скора паліцыя яго адтуль высяляе. Дык пачаў цяпер вясьці працу процi цара ў Вільні; за гэта дастае 5 гадоў Сыбіру, адкуль вярнуўшыся ў 1892 г. далей працуе на палітычным полі, выдаючы пры гэтым соцыялістычную часопісь „Robotnik".

Далей пераносіцца ў Варшаву, дзе працуе ў Польскай Соцыялістычнай Партыі да 1900 году, калі быў арыштованы і вывезены ў Пецербург.

Адседзіўшы пару гадоў, уцякае з вастрогу ў Лёндан і па нейкім часе раптам зьяўляецца ў Кракаве, пад аўстрыйскай окупацыяй, ды становіцца на чале рэвалюцыйнай работы ў Польшчы.

У часе расейска-японскай вайны апыняецца аж у Японіі, стараючыся здабыць зброю для паўстанцаў на бацькаўшчыне.

Адтуль вярнуўшыся ў Галіцыю арганізуе „стралецкія аддзелы".

Далей, з пачаткам вайны, на чале арганізованых ім легіёнаў, пераходзе аўстрыяцка-расейскую граніцу, змагаючыся па старане Аўстрыі. Але хутка стварыў ужо тайную вайсковую арганізацыю, скіраваную таксама процi Аўстрыі ды Нямеччыны.

У 1916 г. становіцца на чале вайсковага дэпартамэнту Рады Стану, а ў 1917 г. нямецкі гэнерал Бэзэлер арыштоўвае Яго і вывозіць у Магдэбург. У 1918 г. выпушчаны з турмы, становіцца Начальнікам Дзяржавы, здабыўшай тымчасам самастойнасьць. У 1919 г. склікае першы Сойм адроджанай бацькаўшчыны. Цяпер, як галоўны павадыр арміі, распраўляецца па цяжкіх змаганьнях з бальшавікамі, разьбіваючы іх аканчальна пад Варшавай.

Наступае замірэньне ў Рызе. Польшча аканчальна здабывае сабе незалежны быт.

Кіраўніцтва дзяржавай Пілсудскі аддае ў рукі дэмакратычнага ўраду, а Сам ухіляецца ад палітычнага жыцьця. Але калі пабачыў, што дэмакратычны ўрад даводзіць да развалу дзяржавы, дык 12 траўня 1926 г. разганяе ўрад і фактычна бярэ ўладу ў свае рукі, хоць і адмовіўся быць прэзыдэнтам, а затрымаў для сябе толькі ўладу міністра вайсковых справаў і гэнеральнага інспэктара арміі.

Памёр, як дактары прызналі, ад рака жывата і лёгкіх, адбыўшы сьв. споведзь і прыняўшы апошняе сьв. алеепамазаньне, чаго ўдзяліў кс. пралат Ул. Карніловіч.

З прычыны сьмерці маршалка прыпынены былі ўсялякія гульні, прыняцьці і г. д. аж да адкліканьня, а Рада Міністраў устанавіла 6-тыднёвую дзяржаўную жалобу.

Прэзыдэнт І. Мосьціцкі выдаў пры гэтым да грамадзянства такую адозву:

„Да грамадзян Рэчыпаспалітай! Першы Маршалак Польшчы Язэп Пілсудскі скончыў жыцьцё.

Вялікім трудом свайго жыцьця будаваў сілы ў народзе. Гэніем розуму, цьвёрдай натугай волі дзяржаву ўваскрасіў. Вёў яе да адраджэньня ўласнай моцы, да вызваленьня сілаў, на каторых будучыя лёсы Польшчы абапруцца. За веліч Яго працы дана было Яму аглядаць нашу Дзяржаву, як твор жывы, здольны да жыцьця і да жыцьця прыгатаваны, а Армію нашу славай пераможных штандараў пакрытай.

Гэты Найбольшы на працягу ўсяе нашае гісторыі Чалавек з глыбіні мінулых дзеяў моц Свайго Духа чэрпаў, а надлюдзкім напружаньнем думкі будучыя шляхі згадваў. Не Сябе там ужо бачыў, бо даўно адчуваў, што Яго фізычныя сілы падходзяць да канца.

Шукаў і да самастойнай працы запраўляў людзей, на якіх цяжар адказнасьці мог-бы спачыць.

Пераказаў Народу спадчыну думкі дбалай аб гонар і магутнасьць Дзяржавы.

Гэты Ягоны тэстамэнт нам, жывым, пераказаны маем прыняць і выпаўніць. Няхай жалоба і боль паглыбяць у нас зразуменьне нашай, — цэлага Народу — адказнасьці перад Яго Духам і перад будучымі пакаленьнямі.

Варшава. Замак 12 траўня 1935 г.

Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай Польскай
**(—) Ігнацы Мосьціцкі.**

Па цэлай Польшчы адбыліся жалобныя набажэнствы за душу Нябожчыка, а хаўтуры адбыліся ў суботу 18 траўня ў Кракаве, куды цела перавязьлі асобным цягніком з Варшавы.

Са станцыі труну перавязьлі на гармаце ў вавэльскую катэдру, дзе Я. Э. Мітр. Сапега адправіў лацінскае жалобнае набажэнства, а потым Я. Э. япіскап грэка-каталіцкі Коцылоўскі з Пярэмысьля, у прысутнасьці П. Прэзыдэнта, міністраў, гэнэралаў і чуць ня ўсіх прадстаўнікоў замежных дзяржаваў, адслужыў паніхіду паводле ўсходняга абраду.

Па скончаных набажэнствах труну з целам пры гуку сто аднаго гарматнага стрэлу памясьцілі ў Вавэльскім падзямельлі паміж каралямі Польшчы.

Мазгі Маршалка, паводле Яго ўласнай волі, выбралі, забясьпечылі і адддалі для навуковых досьледаў у Віленскі унівэрсытэт, а сэрца Маршалка будзе пахована побач з Яго маткаю ў Вільні.

---

Бязьлітасная сьмерць забрала сваю ахвяру. Але веліч духа, сіла волі, моц характару і адвага адказнасьці за сваё дзела, агорнутая моцнай любоўю да свае бацькаўшчыны, будзе жыць, і будзе ясным дарогапаказьнікам для многіх пакаленьняў ня толькі свайго народу, але і чужога, як трэба любіць, працаваць і змагацца за сваю бацькаўшчыну.

Вечная памяць і спакой Яго душы!

В. М.

---

# Сусьветная выстаўка каталіцкае прэсы ў Ватыкане.

З думкаю аб выстаўцы каталіцкае прэсы, ці, інакш, аб зьезьдзе каталіцкіх журналістых, выступіў рэдактар журналу „Osservatore Romano," граф Дальля Торэ. Добрым здарэньнем да гэтага аказваюцца 75-я ўгодкі заснаваньня журналу „Osservatore Romano", якія споўняцца ў будучым 1936 годзе. Думка гэтая, прадстаўленая графам сьв. Айцу, была прынята Яго Сьвяцейшасьцю з поўным адобраньнем, пры чым сьв. Айцец выказаў пагляд, што найбольш адпаведным месцам дзеля гэтае выстаўкі будзе Ватыкан. Сьв. Айцец настолькі зацікавіўся выстаўкаю, што разам з графам і іншымі асобамі, якія ўваходзяць у склад камітэту, вывучаў плян арганізацыі выстаўкі, дасьледжваючы няраз на месцы ўсе дэталі і спосаб найлепшага ўладжаньня выстаўкі.

Выстаўка будзе адбывацца з красавіка да кастрычніка месяца 1936 году і, знаходзячыся пад пратэктаратам сьв. Айца, мае на мэце: асьведамленьнем на ўвесь сьвет аб каталіцкай працы на полі апостальства прэсы, сьведчаньнем аб найнавейшых удасканаленьнях у справе арганізацыі і тэхнікі, быць жывою ілюстрацыяй найбольш запраўдных задачаў рэлігійных, моральных і грамадзкіх, зьвязаных са штодзеннаю і пэрыядычнаю прэсаю, і таксама быць сьветлым павучэньнем для каталіцкіх журналістых і публіцыстых, а для агульнае масы верных — пабуджэньнем да будучых удачаў і новых пладавітых пачынаньняў.

Выстаўка будзе складацца з 3-х аддзелаў: 1) агульнага, 2) нацыянальнага з спэцыяльнымі павільёнамі і 3) сыстэматычнага.

1) Аддзел агульны прадэмонструе гістарычнае разьвіцьцё прэсы, ілюструючы аднačасна яе стан ува ўсім сьвеце. Публіка будзе мець магчымасьць азнаёміцца з варункамі інтэлектуальнымі, тэхнічнымі і эканамічнымі, у якіх прыходзіцца працаваць у наш час каталіцкім журналістым, ды што

зрабіла Царква цераз пасярэдніцтва папаў, япіскапаў і іншыя вышэйшыя духоўныя асобы дзеля падтрыманьня каталіцкае прэсы.

2) Аддзел нацыянальны будзе зьмяшчаць выстаўку каталіцкае прэсы асобных народаў.

3) Гэтак званы сыстэматычны аддзел будзе зьмяшчаць рознага роду выданьні з спэцыяльнае галіны. Галоўныя яго групы - гэта: Каталіцкая Акцыя, Місійная, далей — Усход з усходнім абрадам, каталіцкія школы і унівэрсытэты, і нарэшце манашаскія ордэны і рэлігійныя конгрэгацыі.

Выканаўчы Камітэт прабывае ў Ватыкане, старшынёю ў ім — граф Дальля Торэ.

---

# Пастановы Конфэрэнцыі Япіскапату Польшчы.*)

Конфэрэнцыя Япіскапату Польшчы, што адбылася пад старшынством Я. Эм. Кардынала Аляксандра Какоўскага ў Варшаве з 4 да 6 траўня с. г. з удзелам 33-х Япіскапаў, занялася галоўным чынам проблемамі навучаньня і выхаваньня моладзі, якая ходзіць у школы, а таксама і справаю хрысьціянскай сям'і.

Найдастойнейшы Япіскапат, з моцы свайго пасланьніцтва, атрыманага ад Госпада Ісуса Хрыста, а таксама апіраючыся на асновах энцыклікі сьв. Айца Піуса XI „**„Аб хрысьціянскім выхаваньні моладзі,“** разам з каталіцкім грамадзянствам, імкнецца да правядзеньня ўва ўсіх галінах школьнае справы постулятаў каталіцкае навукі, якая ёсьць найважнейшаю асноваю здаровага выхаваньня маладога пакаленьня для Царквы і Дзяржавы.

У радзе рэфэратаў выказаны мамэнты дадатныя, але таксама і ад'емныя ў сягоньняшняй школьнай справе, што падлягае яшчэ launch пэратварэньням у сэнсе устройства і ідэйнага боку.

Япіскапат Польшчы неаднакроць, на ранейшых сваіх конфэрэнцыях, паддаваў гэту так важную для Царквы, народу і дзяржавы галіну належнаму асьвятленьню і аналізу. Аднак-жа трывожныя праявы, якія паўтараюцца там-сям у вядзеньні школьнага навучаньня і выхаваньня, а таксама няўхіленыя яшчэ непаразуменьні паміж некаторымі школьнымі ды царкоўнымі ўладамі, высунулі патрэбу аснаўнога разгляду сяньняшняга стану выхаваньня моладзі і зазначэньня адносін Царквы да ўжыванае сыстэмы і мэтодаў.

---

*) Паводле камунікату „Pol. Kat. Ag. Prasowej“ за 6 траўня с. г.

Паміж іншым, Конфэрэнцыя Япіскапаў нанова зьвярнула сваю ўвагу на гэткія ад'емныя праявы ў выхаваньні моладзі, якімі зьяўляюцца, напр., кооэдукацыя, навучаньне і выхаваньне каталіцкіх дзяцей некаталікамі, надужываньне фізычнага выхаваньня са шкодаю для фізычнага і моральнага здароўя моладзі, падтрымліваньне арганізацыяў, якія зьневажаюць дух каталіцкае моладзі і г. д. Япіскапат жадае, каб якнайлепш улажыліся адносіны паміж школаю з аднаго боку і Царквою ды каталіцкім грамадзянствам — з другога.

Падчыркнута ў рэфэратах трудная і адказная праца настаўніцтва, якому належыць прызнаньне і ўдзячнасьць. Таксама з прызнаньнем адносіцца Япіскапат да каталіцкіх арганізацыяў моладзі і яе душпастыраў, якія дзейнічаюць у трудных варунках.

Апрача таго конфэрэнцыя занялася жалабамі, паданымі Япіскапату каталікамі на даваньне іншаверцамі, насупроць Божым і дзяржаўным законам, разводаў малжэнствам, павенчаным у каталіцкай Царкве. Япіскапат пастанавіў выступіць проці гэтага якнайэнэргічней ды ізноў прыпомніць каталіцкаму грамадзянству сьвятасьць і неразрыўнасьць каталіцкага малжэнства.

---

## Бязбожніцкая акцыя ў Саветах.

Надзвычайна цікавы рэфэрат аб савецкіх бязбожніках прачытаў нядаўна а. Я. Леді Т. І., прафэсар Папскага Усходняга Інстытуту ў Рыме, адзін з найлепшых знаўцаў сучаснай Расеі.

Савецкі ўрад,—казаў а. Леді,—быў і надалей астаецца з грунту бязбожніцкім. У гэтым ня можа быць ніякага сумліву. І калі ад часу да часу зьяўляюцца мамэнты нейкага, праўда, нязначнага аслабленьня рэлігійных прасьледаваньняў, то прычыны гэтага трэба шукаць ня ў зьмене часовых настрояў ці ўладароў сучаснай Расеі, але выключна ў адносінах унутрана-арганізацыйных.

Перш за ўсё трэба ведаць, што ў лоне савецкага ўраду сьціраюцца між сабой ад пачатку два кірункі барацьбы з рэлігіяй; розьняцца яны толькі тактыкай і мэтодамі гэтай барацьбы. Адзін з іх, прадстаўляны вонкава саюзам ваяўнічых бязбожнікаў з двума галоўнымі органамі прэсы: „Бязбожнікам", які выходзіць блізка штодзень і „Антирелигиозникам", што жадае барацьбы беспасярэдняй, актыўнай. Галоўнаю яго зброяю ёсьць прапаганда пры помачы прэсы, рэфэратаў, фільмаў, дэмонстрацыяў і інш., а прыхільнікамі зьяўляюцца пераважна жыды з аслаўленым Яраслаўскім-Губэльманам на чале. Сталін і шмат іншых камісараў тры-

маюцца пагляду, што для ўхіленьня рэлігіі зьяўляюцца лішнімі спосабы гвалту, хопіць перарваць даплыў новых сіл духавенства і консэквэнтна праводзіць соцыялізацыю ўва ўсіх праявах жыцьця, каб усякая рэлігія, забітая „поступам", сама загінула.

Аж да 1931 году першы кірунак меў поўную перавагу. Саюз ваяўнічых бязбожнікаў дасягнуў цыфры 5 мільёнаў сяброў. Раптам надыйшоў перапом і ў тры гады пазьней лічба сяброў зьменшылася ледзь не да палавіны. Прапарцыянальна зьменшыўся таксама і наклад органаў прэсы і напружаньне прапаганды. Тайная прычына гэтага факту была ў тым, што ў гэтым часе праводзілася праграма „пяцілеткі" і перапрацованы, ня раз 18 гадзін на дзень заняты народ ня меў часу на слуханьне нудных рэфэратаў і пэрагляд, — па сто разоў,—пустых, антырэлігійных фільмаў. Да гэтай прынцыповай унутранай прычыны дайшлі яшчэ повады натуры палітычнай і чыста асабістай. Да прычын палітычных належыць перш за ўсё факт апублікаваньня сьв. Айцом перапрашальных малітваў у базыліцы сьв. Пётры за савецкія сьвятакрадзтвы. Выклікала гэта, як ведама, шырокі водгук у цэлым сьвеце і перш за ўсё ў Амэрыцы, з якой Саветы вельмі зацікаўлены быць у добрых адносінах. Другім трывожным для Саветаў фактам была паданая Папе групаю магомэтан просьба, каб узяў пад увагу ў барацьбе аб абароне рэлігіі таксама і свабоду вызнаўцаўісляму. Магло гэта выклікаць вялікае ўзбурэньне сярод азіяцкіх народаў, а гэтага Саветы ўсімі сіламі мусілі сьцерагчыся. Напасьледак матывам, ужо чыста прыватнай натуры, была няласка, у якую папаў Яраслаўскі праз апублікаваньне падзеяў камуністычнай партыі, у каторых Сталін дагледзіў шмат „гэрэзіі" проціў камуністычнай ідэолёгіі.

Рэзультаты аслабленьня бязбожніцкай акцыі нядоўга казалі на сябе чакаць. То тут, то там штораз сьмялей нанова пачынае паўставаць вера, павялічваюцца факты публічных набажэнстваў, працэсіяў, у каторых нават камсамольцы бяруць удзел. 2 мая 1934 г. мае месца ў Маскве ўрачысты інгрэс мітрапаліта Сергія на праваслаўнай сталіцы мэтрополіі маскоўскай. У гэтай урачыстацьці, рэч аддаўна нявіданая, бярэ ўдзел 20 япіскапаў, 44 сьвяшчэньнікі і 15 дзякоў. Дык нанова пачынаецца прапаганда барацьбы з рэлігіяй. Саюз бязбожнікаў адначасна з ГПУ і камісіяй кантролю рэарганізуецца. Праўда, звольнілі Яворскага, на кіраўнічым аднак становішчы астаюцца Жыды, правадыром каторых цяпер зьяўляецца Кагановіч, сэкрэтар камуністычнай партыі і прэзэс кантрольнай камісіі, побач з Сталіным наймагутнейшая і найбольш уплывовая адзінка савецкай Расеі. Сталася гэта ўжо ў траўні бягучага году.

Заўсёды абкружаны жыдамі, Сталін заўважвае з гэтага боку небясьпеку для сябе. Дык шукае апірышча ў чырвонай арміі, з каторай творыць нанова ўпрывілеёваную касту, якая мае падтрымаць яго падважаны прэстыж. Рэформуе ГПУ, аддаляе або рассыпае элемэнт жыдоўскі, у канцы ўжо ў сакавіку бягучага году, пераводзіць Кагановіча на труднае становішча камісара камунікацыі. Праўдападобна ў сувязі з гэтым мае месца новае аслабленьне акцыі бязбожніцкай прапаганды.

Верыць у тое, каб перамога Сталіна абазначала таксама і адмову ад цяперашніх мэтодаў барацьбы з рэлігіяй, было-б справаю дарэмнаю і занадта оптымістычнаю. Але можна мецъ надзею, што рэлігійнага пачуцьця ніякімі спосабамі ня ўдасца выдзерці з чалавечых сэрцаў.

**(КАП).**

---

# Жабча.

У Жабчы, Луцкага пав. ужо 7 гадоў істнуе уніяцкая парафія.

Ніводная уніяцкая парафія не перанясла столькі барацьбы за Сьв. Унію, як Жабча.

Вось, дзякуючы гэтай барацьбе, у Жабчы і можна заўважыць большую сьведамасьць, як у іншых уніяцкіх парафіях. У Жабчы а ніводзін прыхаджанін не назаве сябе праваслаўным, заўсёды называюць сябе каталікамі славянскага абраду або грэка-каталікамі, і добра ведаюць, што яны праз прыняцьце каталіцтва не перасталі быць украінцамі.

Цяпер нажаль яны ня маюць свайго сьвяшчэньніка (хутка ўжо будуць мець); прыяжджаў да іх на Вялікодныя Сьвяты а. праф. Неманцэвіч. Амаль усе адбылі споведзь і прынялі Сьв. Прычасьце. Асабліва набожнымі там зьяўляюцца хлопцы, дурных бязбожнікаў там зусім няма.

Жабчыцкія прыхаджане цьвёрда трымаюцца Сьв. Уніі; за апошні год, хаця і няма на месцы уніяцкага сьвяшчэньніка, прыход павялічыўся на 6 асобаў. Прыход невялікі, усяго 205 душ, але гэтыя 205 усьведамленых душ больш вартыя, як 2000 менш усьведамленых у іншых прыходах.

Жабчыцкая царква мае добры хор. Царква новая, выбудаваная уніятамі, утрыманая ў добрым парадку, які падтрымлівае моладзь. На Сьвята хлопцы і дзяўчаты шмат напрацаваліся: вымылі падлогу, навілі з зяляніны ды нарабілі з паперы шмат прыгожых вянкоў. Дай Божа, каб ў кожным уніяцкім прыходзе моладзь так рупілася аб сваёй царкве.

*Злучэнец.*

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Унійная Конфэрэнцыя ў Пінску.** На 5, 6 і 7 верасьня гэтага году зьбіраецца унійная конфэрэнцыя ў Пінску. Некаторым здавалася, што ўжо больш ня будзе пінскіх унійных конфэрэнцыяў; хай-жа не сумляваюцца. Гэта конфэрэнцыя, як і ранейшыя, мае быць вельмі цікаваю; ужо выявілі сваю згоду прачытаць рэфэраты ведамыя ўсім асабістасьці, як а. Урбан Т. І. і Я. Варанецкі.

**Пашырэньне унійнае справы.** Унійная справа, хоць паволі, але штораз пашыраецца і паглыбляецца. Людзі штораз больш цікавяцца Уніяй і выказваюць прыхільнасьць да яе. Унійныя дзеячы пачынаюць здабываць сымпатыю і сярод польскіх кругоў, нават інтэлігенцыі, дагэтуль досыць далёка стаяўшае ад Уніі. Варта занатаваць факт, што калі а. Бужак (уніяцкі сьвяшчэньнік — езуіт) даваў рэколекцыі для польскае інтэлігенцыі ў Востралуцы, людзі ня толькі масова гарнуліся да навукі, але таксама і да споведзі, да уніяцкага сьвяшчэньніка. Айцец спавядаў да 1 г. папоўначы. А было там аж 9 лацінскіх ксяндзоў, а ўсё-ж такі людзі пайшлі да уніяцкага.

Паўстала таксама думка сярод каталіцкага грамадзянства ў Варшаве прыйсьці з выдатнай помачай, нават матар'яльнай, унійнай акцыі, каб не стаяць ніжэй за іншыя народы. Вялікія таксама заслугі для унійнае справы кладзе „Związek Czcicielek Najśw. Serca Jezus." у Варшаве, памагаючы, ў меру магчымасьці, уніяцкім манашкам — СС. Місіянэркам.

З усіх таксама бакоў даведваемся, што па каталіцкіх сэмінарыях закладаюць унійныя гурткі, запрашаюць уніяцкіх дзеячоў з лекцыямі. У некаторых епархіях думаюць нават місійныя саюзы ксяндзоў перарабіць на саюзы унійныя...

**Альбэртын.** Адбылося сьвята дзяцей „Эўхарыстычнае Кругцыяты." Апроч чулых набажэнстваў у царкве, мелі нашыя дзеткі і іншыя ўцехі: Сёстры Місіянэркі пастараліся для кожнага па абразку ў рамках (уласнае работы) ды ўлаштавалі забаву з пачастункам для дзетак. Хай памятаюць чулыя дзіцячыя сэрцы свой вялікі сьвяточны дзень!

**Люблін.** Піша а. Філіповіч: Сьпяшу падзяліцца радасьцю, каторай абдарыў мяне Госпад. Паслаў мне сьвяточны падарак у асобе аднэй праваслаўнай, якая ўчора прылучылася да Каталіцкае Царквы. Трошкі меў з ёю клопату, бо зьявілася пазаўчора і абавязкава хацела да Сьвятаў быць каталічкай, каб дастуціць яшчэ ласкаў закончаньня Юбілей-

нага Году і адбыць споведзь. Але пры экзаміне я пераканаўся, што душа шчырая і добра прыгатаваная, — дык і зрабіў ёй гэтую радасьць..

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Вселенскі Патрыярх аб Рымскім Папе.** „Вѣстникъ русс. студ. христ. движенія“ памясьціў, нядаўна артыкул аб гутарцы з Вселенскім Патр. Фотыем II у Цараградзе.

Патрыярх выказаў свой пагляд, паміж іншым, і аб адносінах Праваслаўнай Царквы да Рыму.

„Рымская Царква, — сказаў Патрыярх, — вялікая і старадаўная Царква і мы для яе маем чэсьць і пашану. Мы ніколі ня думалі адкідаць таго, што Рымскаму Архіяпіскапу належыць першае месца ў чэсьці.

Мы адносіліся да Яго, як да першага паміж другімі. І калі-б Папа, на моцы прыналежнага яму першага месца ў чэсьці, склікаў Сабор, для нас ня было-б ніякіх труднасьцяў узяць у ім удзел, але толькі пад такім варункам, што Рымскі Папа прадставіць Сабору для разгледжаньня і пацьверджаньня ўсё тое, што Рымская Царква прыняла за догмы ад часу падзелу і да нашых дзён.

І калі-б Сусьветны Сабор адабрыў усё новаўведзенае Рымскаю Царквой, то і мы прынялі-б усё гэта без агаворкі.

**Навярненьне да каталіцкай царквы голяндзкага мін. асьветы.** Усе часопісі Голяндыі жыва гавораць аб тым, што мін. асьветы Г. П. Мархант пакінуўшы пратэстантызм, вярнуўся да Кат. Царквы і прасіў сваю каралеву Вільгэльміну, каб яго звольніла са становішча міністра. Але ўсе думаюць, што каралева гэтага ня споўніць.

**Эстонія. Нарва.** Усходнія (уніяцкія) Сёстры Місіянэркі пішуць: У нас у Вял. Суботу, ці лепш на Вялікдзень уночы, адбылася мілая ўрачыстасьць: двое дзетак прылучылася да Каталіцкае Царквы, адбылі сваю споведзь і прыступілі да сьв. Прычасьця. Апрача таго яшчэ адна дзяўчынка (наверненая перад тым) адбыла сваю першую споведзь. У наступную суботу будзе, як бы сказаць, яшчэ большая ўрачыстасьць: першы ў нашай капліцы шлюб двох наверненых з праваслаўя, — і то шлюб не абыякі, але шыкарны, выстаўны, багаты — з кветкамі, дыванамі, збольшаным хорам, новым аграмадным (як на нашую капліцу) панікадзілам, новай прыгожай рэзьбай на „царскіх варотах.“ Уваход на шлюб у капліцу па білетах: бо надта-ж мала ў нас месца... Дзякаваць Богу за прывядзеньне гэтых дзьвюх душачак! Хай іх Бог багаславіць у новым жыцьці!... Ох, цяжкая тут праца, страшэнна цяжкая! Вялікіх—часам нашай чалавечай слабасьці здавалася-б аж можа завялікіх — жадае Бог ахвяраў! Але відаць інакш быць ня можа. Хай Імя Госпадава будзе заўсёды багаслаўлёна!...

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ.



## Маленькі гэрой.

Праўдзівым гэроем быў маленькі 12-цьгадовы мэксыканец Іосэ Санхэз. Ён прылучыўся да паўстанцаў, што бароліся за сьвятую каталіцкую веру ў Мэксыцы. Няздольны яшчэ, па малалетнасьці, да вялікіх подзьвігаў, —ён стараўся быць карысным для старэйшых абаронцаў сьв. веры. Злоўленага прывялі яго да гэнерала Гэрэро, які спытаўся ў яго, як гэта ён — зусім яшчэ дзіцянё — адважыўся па-

ступіць у рады паўстанцаў? Іосэ спакойна адказаў: „Яны мяне схапілі, думаючы, што мяне перамаглі, а тымчасам я яшчэ не паддаўся!“

Пачуўшы гэткі адказ, гэнерал закіпеў гневам, загадаў пасадзіць хлопчыка ў вастрог і засудзіў на кару сьмерці разам з іншым хлопчыкам, яго таварышам.

На другі дзень хлопчыкаў перавялі ў іншую мясцовасьць, можа таму, што там іх ніхто ня знаў і прысуд можна было лягчэй выканаць. А 6 гадзіне ўвечары салдаты прыйшлі па таварыша малога Іосэ, маючы прыказ павесіць гэтага хлопчыка. Іосэ адвёў свайго таварыша на месца казьні, хочучы ведаць, што прыдзецца яму перажыць у апошнюю мінуту. Таварыш яго набожна перахрысьціў сябе знакам Крыжа, зьвярнуў пагляд свой у неба, заявіў, што ён гатовы і хутка пасьля гэтага аддаў душу сваю Таму, за Каго бароўся і цярпеў.

Бацька Іосэ, ахоплены глыбокім горам, запрапанаваў гэнералу 5000 пэзэтаў выкупу за звальненьне яго сына. Даведаўшыся пра гэта, маленькі гэрой прасіў паведаміць бацьку, каб той ані граша не марнаваў на гэтую мэту. За некалькі гадзін да сьмерці, Іосэ напісаў пісьмо да свае цёткі, просячы паведаміць яго маці пра яго вялікую ўдзячнасьць за ўсё выказанае яму дабро ды пра тое, што ён паміраэ ў барацьбе за веру.

У палавіне 12-ай гадзіны ночы прыйшлі каты і вывелі яго з вастрогу на месца казьні.

Іосэ ня выказаў ніякае трывогі або страху, быў спакойным і нават вясёлым да апошняга мамэнту. Салдаты прыцэліліся...

— Плі... і з грукатам стрэльбаў зьмяшаўся голас маленькага гэроя:

— „Няхай жыве Хрыстос!“



# Усячына.

**Наверненьне да Кат. Царквы англіканскага віцэ-адмірала.** З Ватыкану паведамляюць, што англіканскі віцэ-адмірал сяродземнаморскае эскадры Джон Кноўлес прыняты да кат. Царквы а. Базылём Вэдге, ігуменам бэнэдыктынскага манастыра сьв. Андрэя ў Эдынбургу.

—**Золата з пяску.** Быўшы адвакат Дунікоўскага Легранд паразумеўся ў Сан Рэмо з Дунікоўскім адносна выкарыстаньня яго вынаходу.

Дунікоўскі заявіў, што думае ўжо прыступіць да працы і што пры помачы свайго апарату будзе прадукаваць ад 4 да 5 грамаў золата ў дзень, прадукуючы па 50 сантымаў за карат, калі цана золата на рынку ёсьць каля 70 сантымаў.

—**Жанчына солтысам.** У вёсцы Пятровічы выбралі на старасту гміны жанчыну, што выклікала зразумелую сэнсацыю.

— Польскі міністар унутраных справаў выдаў распараджэньне аб ахове прыдарожных дрэваў, садоў і інш. За псаваньне дрэваў загад міністра прадбачыць строгія кары.

— Нядаўна памёр у Вільні найменшы чалавек у Польшчы Шупінскі, які меў толькі 45 сантымэтраў росту.

— Польшча мае 9.237.000 рагатае жывёлы, 3.760.000 коняй, 7.820.000 сьвіней, 2.544.000 авец і 320.000 козаў. У працягу году лік коняй паменшыўся на 7.000, рагатае жывёлы — павялічыўся на 252.000 штук, а лік сьвіней павялічыўся на 1.329.000 штук.

— Румынскія купцы кінулі ў мора каля мільёна штук апэльсынаў, баючыся паніжэньня цаны на іх.

— Бэрлінская паліцыя забараніла выдаваць газэты г. зв. брукоўцы.

— Інжынер Буліг, у Кобленцы, збудаваў самаход, якім можна ехаць па вадзе.

— З прычыны землятрасеньня ў першых днёх траўня с. г. на Каўказе загінула каля 200 чалавек, а 500 чал. было ранена.

— Страшэнная пясчаная бура прайшла нядаўна над Злучанымі Штатамі Паўночнай Амэрыкі. Слой пяску таўшчынёю ў 1 мэтр пакрыў грунты. 50 тысяч штук жывёлы застаецца бяз пашы.

— У часе вайсковых манэбраў у Мукдэне (Кітай) каля 500 чалавек сярод мясцовых жыхароў было атручана газамі.

— У 1934 г. выслана ў Польшчы каля 350 мільёнаў пісьмаў. На аднаго жыхара выходзіць каля 10 пісьмаў.

# Календар

на м—ц Чэрвень 1935 г.

| Стары стыль | | | | | Новы стыль |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
| 1 | П | Юстына. Адд. Ушэсьця | 14 | P | *Suchi dzień*. Bazyla Wial. |
| 2 | С | Нікіфара | 15 | S | *Suchi dzień*. Wita i Jol. |
| 3 | Н | **Сёмуха. Сьв. Тройцы** | 16 | N | **Św. Trojcy.** Benona i Just. |
| 4 | П | **Дзень сьв. Духа, Мітраф.** | 17 | P | Adolfa. Marcijana |
| 5 | А | Дарахвея | 18 | A | Marka. Marcelina. Achr. |
| 6 | С | Вісарыёна і Іларыёна | 19 | S | Harwaza i Prataza |
| 7 | Ч | Хвядота Анкір. | 20 | Č | **Božaje Cieła.** Sylweryja |
| 8 | П | Тодара Страцілата | 21 | P | Aloiza Gonzagi |
| 9 | С | Кірылы і Тэклі | 22 | S | Paŭliny |
| 10 | Н | **Н. 1 па Сёмусе.** Цімахв. | 23 | N | Zenana, Hrypiny |
| 11 | П | Баўтрамея | 24 | P | *Naradziny Jana Chryśc.* |
| 12 | А | Ануфрыя Вялік. | 25 | A | Wilhelma |
| 13 | С | М цы Акіліны | 26 | S | Jana i Paŭła. Wirhilija |
| 14 | Ч | Елісея | 27 | Č | Uładysława |
| 15 | П | Амоса | 28 | P | Irynieja |
| 16 | С | Ціхана | 29 | S | **Św. Apost. Piotry i Paŭła** |
| 17 | Н | **Н. 2 па Сёмусе.** Мануіла | 30 | N | Anieli. Lucyny |
| | | | | | LIPIEŃ |
| 18 | П | Лявона | 1 | P | Najśw. Krywi Jezusa |
| 19 | А | Юды брата Госпад. | 2 | A | *Adwiedziny Najsw.Dz. M.* |
| 20 | С | Мяфода | 3 | S | Lawona II papy. Anatola |
| 21 | Ч | Юльяна | 4 | Č | Todara |
| 22 | П | Аўсея | 5 | P | Antona. Maryi |
| 23 | С | Агрыпіны | 6 | S | Łucei. Isaji praroka |
| 24 | Н | **Н. 3 па Сёмусе.** Н. І. Хр. | 7 | N | Kiryły i Miafoda |
| 25 | П | Фэўроніі | 8 | P | Albžbiety. Aŭhienia |
| 26 | А | Давіда | 9 | A | Weraniki. Zenona |
| 27 | С | Самсона | 10 | S | 7 bratoŭ śpiač. mučanik. |
| 28 | Ч | Кіра і Іоана | 11 | Č | Piusa I papy. Pałahiei |
| 29 | П | **Пётры і Паўла апостал.** | 12 | P | Jana Gwalberta. |
| 30 | С | Сабор сьв. 12 апост. | 13 | S | Anakleta pap. |

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Ліпень 1935 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Н | **Н. 4 па Сёмусе.** Кузьмы | 14 | N | Bonawentury |
| 2 | П | Пал. рызы Пр. Баг. | 15 | P | Henryka |
| 3 | А | Іакінфа | 16 | A | *Maci Božaj Škaplernaj* |
| 4 | С | Андрэя Крыт. | 17 | S | Alaksieja. Marcelaha |
| 5 | Ч | Апанаса Афонск. | 18 | Č | Symona. Kamila. Fryder. |
| 6 | П | Сысоя Вял. | 19 | P | Wincentaha z Paulo |
| 7 | С | Акакія | 20 | S | Česława. Haronima. Hal. |
| 8 | Н | **Н. 5 па Сёмусе.** Пракопа | 21 | N | Praksedy |
| 9 | П | Панкрата | 22 | P | Maryi Mahdaleny. |
| 10 | А | Антонія Пячэрскага | 23 | A | Apalinaryja |
| 11 | С | Вольгі кн. | 24 | S | Kunehundy kniah., Kryst. |
| 12 | Ч | Прокла і Гілярыя | 25 | Č | Jakuba Ap, Chrystafora |
| 13 | П | Сабор Гаўрыіла арх. | 26 | P | Hanny—matki N. Dz. M. |
| 14 | С | Акілы | 27 | S | Natalii. Panteleona |
| 15 | Н | **Н. 6 па Сёмусе** Уладзім. | 28 | N | Wiktara. Inacentyja |
| 16 | П | Афінагена | 29 | P | Marty dziewy. Ołafa |
| 17 | А | Марыны. Лазара | 30 | A | Rufina i Aldona |
| 18 | С | Амільяна | 31 | S | Ihnata Lojoli. Aleny |
| | | | | | ŽNIWIEŃ. |
| 19 | Ч | Макрыны | 1 | Č | Piotry ŭ akowach |
| 20 | П | Ільі | 2 | P | *Maryi Dziewy Anielskaj* |
| 21 | С | Сымона і Іоана | 3 | S | Znach. relikw. muč. Ściap. |
| 22 | Н | **Н. 7 па Сёмусе.** Мар. М. | 4 | N | Daminika. Arystarcha. |
| 23 | П | Трахіма і Феафіла | 5 | P | *N. Maci Božaj Śnieżnaj* |
| 24 | А | Барыса і Глеба | 6 | A | *Pieraabražeńnie Jezusa* |
| 25 | С | Усьп. сьв. Ганны | 7 | S | Kajetana. Danata |
| 26 | Ч | Ермалая | 8 | Č | Amiljana. Kirjana |
| 27 | П | Панцелеймона. Анфісы | 9 | P | Jana Wianneja i Ramana |
| 28 | С | Прахора | 10 | S | Łaŭryna. Bahdana |
| 29 | Н | **Н. 8 па Сёмусе.** Калініка | 11 | N | Zuzanny |
| 30 | П | Сілы і Сілуана | 12 | P | Klary. Hilaryja |
| 31 | А | Аўдакіма | 13 | A | Hipalita i Kaśjana muč. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.